*Міліцыя затрымала памочніка С.Шарэцкага з крамолай (стар. 2)*
*Крэсла для Аляксандра Першага (стар. 2) Нашая прыгажуня (стар. 4)*



# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 46.320
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

8 кастрычніка 1996 г. | № 76 | Кошт свабодны

## Акцыя пачнецца з плошчы Якуба Коласа

**У мінулую пятніцу ў Мінскім гарвыканкаме прайшлі перамовы гарадскіх уладаў з членамі аргкамітэта па правядзенні Нацыянальнага кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры.**

Гутарка ішла аб пададзенай дэпутатамі Вярхоўнага Савета С.Багданкевічам, А.Бухвоставым, Г.Карпенкам, а таксама грамадзянамі Ю.Беленькім, А.Бяляцкім, Ю.Захаранкам, В.Івашкевічам і Г.Таразевічам заяўцы на правядзенне 19 кастрычніка шэсця ад плошчы Якуба Коласа да Палаца спорту, дзе будзе праходзіць прэзідэнцкі «ўсенародны сход». Там планавалася правесці мітынг. Як паведаміў сустаршыня аргкамітэта Аляксандр Бухвостаў, дасягнуты кампраміс з выканаўчай уладай наконт месца правядзення акцыі — гэта будзе плошча Парыжскай камуны, ля Опернага тэатра. Арганізатары катэгарычна адмовіліся ад прапановы ўладаў перанесці шэсце і мітынг з 19 на 20 кастрычніка. *«Акцыя адбудзецца ў любым выпадку. Людзі маюць права пратэставаць супраць магчымага канстытуцыйнага перавароту 19 кастрычніка,* — заявіў А.Бухвостаў. — *Калі выканкам штосьці зменіць, то мы здымаем з сябе адказнасць за магчымыя наступствы».*

Мяркуецца, што заяўка аргкамітэта афіцыйна будзе разгледжаная Мінгарвыканкамам сёння, 8 кастрычніка.

*БелаПАН*

## Нават у міліцыі ёсць «ворагі»!

**Адразу пасля сустрэчы апальнага генерала Юрыя Захаранкі з супрацоўнікамі міліцыі г.Светлагорска там пачаліся пошукі «ворагаў». Першай ахвярай стаў начальнік міліцыі.**

Падзеі разгортваліся наступным чынам. 25 верасня экс-міністр унутраных справаў завітаў у Светлагорскае аддзяленне міліцыі, каб пабачыцца са сваімі былымі калегамі. Менавіта ў гэтым горадзе Ю.Захаранка пачынаў сваю міліцэйскую кар'еру ў якасці следчага. Сустрэча з былым міністрам, на якой прысутнічала 30—40 супрацоўнікаў міліцыі, доўжылася трыццаць хвілінаў. Ніхто не думаў, што гэтае спатканне будзе расцэнена як «антыпрэзідэнцкая змова».

Літаральна на наступны дзень у Светлагорск заявілася высокае міліцэйскае начальства: шэф Гомельскай абласной міліцыі Удовікаў, ягоны намеснік Іончык, а таксама людзі з міністэрства ўнутраных справаў. Усіх удзельнікаў сустрэчы прымусілі пісаць падрабязныя тлумачэнні наконт таго, як яны трапілі на сустрэчу, хто быў арганізатарам, што гаварыў Захаранка і г.д.

Міліцыянты былі проста шакіраваныя такім паваротам справы. На ўласным прыкладзе яны ўпершыню пабачылі як на пустым месцы ствараюцца «ворагі». Начальнік Светлагорскай міліцыі падпалкоўнік Асіпенка быў звольнены з пасады. (Дарэчы, на сустрэчы з Захаранкам ён нават не прысутнічаў.) Прымушаюць звольніцца і начальніка следчага аддзела маёра Блізнеца. Пошук «неядобранадзейных» працягваецца.

Крымінальныя элементы г.Светлагорска задаволеныя распачатай «чысткай» і перадаюць падзяку кіраўніцтву МУС.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Прэзідэнт не хоча быць султанам

**Сустракаючыся ў мінулую суботу з жыхарамі сталічнага мікраараёна «Малінаўка», прэзідэнт Лукашэнка ў чарговы раз выказаўся наконт «жэншчын».**

На пляцоўцы, дзе адбывалася сустрэча, сабралася чалавек 300 публікі. Аляксандр Рыгоравіч быў у добрым настроі: *«О, женщины — это мои избиратели. Вот говорят, что Лукашенко одни женщины поддерживают. А я говорю: дай Бог чтоб так было до конца жизни. У нас 55 процентов женщин, ну и мужиков процентов 10 мы наберем, для разнообразия. И страна будет наша — женская. А я буду у вас руководителем партии вашей...».*

Нехта крыкнуў з натоўпу: *«Султаном!»*

*«Султаном? Нет, на эту роль я уже не способен,* — шчыра прызнаўся Аляксандр Рыгоравіч, — *потому что после двух лет президентства аб этом уже разговоров быть не может».*

Жарты-жартамі, але прысутных цікавіў не толькі «жэнскі вопрос». Сярод публікі знайшоўся нейкі «разумнік», які пачаў даставаць прэзідэнта сваімі пытаннямі. Гэты дыялог варты таго, каб працытаваць яго цалкам.

**Грамадзянін N: — А как мы будем бороться с «черным рынком» сигарет?**

**Президент:** — *Именем революции!*

**N: — Много жертв будет, если именем революции.**

**П:** — *А откуда вы знаете, что много?*

*А.Лукашэнка на сустрэчы з жыхарамі мікраараёна «Малінаўка».*

**N: — А именем революции всегда жертвы.**

**П:** — *Вы не о той революции думаете.*

**N: — Знаем, что революция приносит.**

**П:** — *Хорошо, давайте на другую тему...*

**N: — Ладно. Скажите, как я, рабочий тракторного завода, что-нибудь могу купить, если в августе отработал 2 дня, в сентябре — 5 дней, в октябре — не знаю сколько отработаю.**

**П:** — *И сколько вы получили за месяц?*

**N: — Получил 700 тысяч.**

**П:** — *За 2 дня. Хорошая зарплата.*

**N: — Я хочу работать 20 дней и получать миллион семсот тысяч...**

**П:** — *Хорошо, я вам помогу, лично вам.*

**N: — Мне не надо лично. Вы цеху точного стального литья помогите, там 300 человек.**

**П:** — *Поедете 300 человек в Витебскую область, мне надо три тысячи, будете работать фермерами.*

**N: — Фермерами? Я не хочу фермером.**

**П:** — *Ну, не хотите, тогда уж глядите сами. Я уже вам, тракторному заводу за эти два года столько помог...*

**N. — Мы хотим работать.**

**П:** — *Работайте...*

Пад канец размовы прэзідэнт пацікавіўся прозвішчам гэтага «разумніка» з Трактарнага завода.

— Запишите, — адказаў мужчына. — Фамилия моя Великоселец, зовут Виктор.

На тым і разышліся.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Два ўказы на стале КС

**У бліжэйшы час Канстытуцыйны суд Беларусі разгледзіць на адпаведнасць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь яшчэ два прэзідэнцкія ўказы.**

На паседжанні КС 10 кастрычніка будзе разглядацца указ №464 «Аб стварэнні кадравага рэестру кіраўніка дзяржавы Рэспублікі Беларусь». Суддзі, у прыватнасці, вырашаць, ці мае прэзідэнт права збіраць «дасье» на кандыдатаў у кіраўнікі розных узроўняў. А 15 кастрычніка КС павінен вырашыць, наколькі законны ўказ №233 аб рэарганізацыі (акцыянаванні) «Народнай газеты».

*БелаПАН*

ВЫБАРЫ

## Фронт падстрахаваўся

**Сойм Народнага Фронта, які адбыўся ў мінулую суботу, вылучыў кандыдатаў у дэпутаты на парламенцкія давыбары.**

Але гэта зроблена на той выпадак, калі раптам давыбары будуць праводзіцца асобна ад рэферэндуму. Канчатковае рашэнне аб удзеле (ці няўдзеле) кандыдатаў ад БНФ у выбарах будзе прынята на наступным паседжанні Сойму 9 лістапада.

**В.В.**

## Партыя Багданкевіча правяла з'езд

**У мінулую суботу ў Мінску адбыўся II з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

134 дэлегаты, якія прадстаўлялі двухтысячную арганізацыю «грамадзян», дастаткова хутка разабраліся з трыма галоўнымі праблемамі: вызначыліся са стаўленнем да прэзідэнцкага рэферэндуму 7 лістапада, вырашылі, як быць з ужо амаль забытай ідэяй імпічмента прэзідэнту, а таксама вылучылі са сваіх шэрагаў кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета.

Як і чакалася, галоўнай тэмай на з'ездзе быў рэферэндум. Стаўленне да яго адлюстравана адразу ў некалькіх зваротах. Як да ўсяго грамадства, так і да яго асобных частак: парламента, моладзі, ветэранаў. У гэтых дакументах АГП заклікала грамадзян процістаяць спробам прэзідэнта А.Лукашэнкі ўсталяваць дыктатуру, падманўшы народ з дапамогай рэферэндуму 7 лістапада. Адзначыўшы ў звароце да парламента, што А.Лукашэнка прадэманстраваў *«поўную бездапаможнасць у вырашэнні дзяржаўных справаў і няўменне кіраваць краінай»*, а таксама, што ён *«так і не адмяніў 16 указаў, прызнаных супярэчлівымі Канстытуцыі»*, удзельнікі з'езду ад імя ўсёй партыі заклікалі дэпутатаў ВС праявіць мужнасць і дзеля захавання краіны *«адхіліць А.Лукашэнку ад пасады прэзідэнта на падставе шматразовых парушэнняў Асноўнага Закона».*

Для ўдзелу ў парламенцкіх давыбарах былі вылучаны 32 кандыдаты. Сярод іх Юрый Захаранка, Леанід Злотнікаў, Мікалай Бабрыцкі, Наталля Шаўко, Валерый Карбалевіч, Аляксандр Рухля, Юрый Варонежцаў ды іншыя прадстаўнікі АГП.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Адступленне

### *Лёгка пайсці на кампрамісы. Цяжка спыніцца*

*«Імпічмент нічога не дасць. Носяцца з гэтай ідэяй, як з пісанай торбай»,* — расчаравана заявіў нядаўна журналістам першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Новікаў. «Давайце жыць дружна», — з усіх бакоў просяць-прапануюць Лукашэнку яго будучыя ахвяры. Атрымаўшы было палітычную ініцыятыву, Вярхоўны Савет, здаецца, напалохаўся сваёй смеласці і свядома вырашыў прытармазіць.

Тым часам хіба што-небудзь прынцыпова змянілася? Можа, прэзідэнцкая каманда ў поўным складзе на займаецца ў працоўны час падрыхтоўкай дзяржаўнага перавароту, арганізуючы на сходах усеагульны «адабрамс» усебеларускаму курултаю 19 кастрычніка? Аказалася, што застрашваць імпічментам і ажыццяўляць яго — дзве розныя рэчы; да таго ж гэта задачы для рознага тыпу людзей.

Збор дэпутацкіх подпісаў за адхіленне прэзідэнта ад улады, які быў распачаты яшчэ месяц таму, замарозіўся на сціплай лічбе прыблізна ў 25—30 парламентарыяў. Камуністы і аграрыі, якія не так даўно дэманстравалі цвёрдую рашучасць, гавораць цяпер, што трэба пачакаць адказу Лукашэнкі на прапанову аб «нулявым варыянце». Трэба меркаваць, чакаць яны будуць да 7 лістапада ўключна. Пасля гэтага, напэўна, песня будзе іншая: «Мы не можам пайсці супраць волі народа».

Убачыўшы, што імпічмент на самой справе рэальна не пагражае, «Сашка і яго каманда» паступова пераходзяць у наступ. Безумоўна, лепшым варыянтам для Лукашэнкі быў бы перагляд самім Вярхоўным Саветам даты рэферэндуму. Вясной мінулага года Лукашэнка купляў дэпутатаў дванаццатага склікання абяцаннем даць усім пасады ў «вертыкалі». Цяперашніх спакушаюць не менш прадумана: самым простых — сенатарствам, тых, хто прэтэндуе на сумленнасць — зменамі ў прэзідэнцкі праект Канстытуцыі, якія даюць большыя паўнамоцтвы заканадаўчай уладзе. Аб'яўлена, што ў працы над прэзідэнцкім праектам прымаюць удзел 90 дэпутатаў. Магчыма, ім ужо ўдалося штосьці адваяваць — некалькі косак у тэксце змяненыя на шматкроп'і.

Верагодна, дэпутатам нават «удасца» замяніць некалькі артыкулаў у лукашэнкаўскім варыянце канстытуцыі, асабліва што тычыцца іхніх уласных праvoў. Але за гэтую «падстаўку» прэзідэнт ад іх запатрабуе, як Бендэр ад Балаганава, «тысячу дробных паслуг». Здаецца, частка дэпутатаў канчаткова заблыталася ў кампрамісах і рызыкуе застацца з пустымі рукамі і драматычным пытаннем адзін да аднаго: «А вы не памятаеце, чаго мы хацелі?». А лёс Беларусі зноў пачне вырашацца на вуліцах...

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Міліцыя затрымала памочніка С.Шарэцкага з крамолай

Памочнік дэпутата ВС Сямёна Шарэцкага Васіль Караваў жыве ў Навагрудку. У верасні ён атрымаў ад спікера парламента пачак газеты «Народная воля» з вядомым артыкулам сп.Шарэцкага аб пагрозе фашызму ў Беларусі. Дэпутат даручыў свайму памочніку адвезці газету ў горад Бярозаўка Лідскага раёна.

В.Караваў накіраваўся ў Бярозаўку, але па дарозе яго спыніла міліцыя. Міліцыянт патлумачыў, што атрымаў загад затрымаць яго і даставіць у гарвыканкам. Маўляў, сп.Караваў вязе лістоўкі, якія абражаюць гонар і годнасць прэзідэнта. Памочнік спікера паказаў газету і патлумачыў, што яна афіцыйна зарэгістраваная і свабодна прадаецца ў кіёсках. Міліцыянт, не ўбачыўшы ніякіх падпольных лістовак, папрасіў прабачэння і адпусціў В.Каравава.

Аднак на гэтым справа не скончылася. В.Караваў, інспектара па нарыхтоўках Навагрудскага райсельгасхарча, тройчы выклікаў да сябе старшыня райвыканкама А.Ліс. Васіля Каравава папярэдзілі, каб ён не займаўся палітычнай дзейнасцю — гэта значыць, каб не даваў нікому чытаць тую газету. В.Каравава заявілі, што ён, *«працуючы ў вертыкалі, вядзе работу супраць яе»*. Яму намякнулі, што на ягоным звальненні настойваюць абласныя ўлады, — і даявілося памочніку спікера звольніцца, як ён гаворыць, *«па ўласнай заяве, але па жаданні начальства»*.

У райвыканкаме пасля гэтага папаўзлі чуткі, што быццам бы ён ездзіў у Бярозаўку ў службовы час і на службовай машыне, за што і паплаціўся. Але сп. Каравы сцвярджае, што ён браў у той дзень адгул і што машыну, якую наймаў у калгасе «Звязда», аплаціў. Ёсць і яшчэ адно цікавае пытанне: адкуль вертыкаль ведала, што ён павязе ў той злашчасны дзень у Бярозаўку газеты? Сп. Каравы ўпэўнены, што ўлады падслухалі тэлефонную размову, калі ён напярэдадні гаварыў з С.Шарэцкім на гэтую тэму.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# На сход у Мінск – па разнарадцы

**На Гродзеншчыне выбары на прэзідэнцкі «усенародны сход» адбыліся ў стылі старых савецкіх традыцый — па разнарадцы.**

Большую частку гродзенскіх дэлегатаў складае начальства, якое або непасрэдна залежыць ад прэзідэнцкай вертыкалі, або ў ёй працуе, таму галасаваць будзе толькі «за». Простых рабочых і калгаснікаў, пра якіх так любіць гаварыць прэзідэнт, сярод дэлегатаў толькі 14%. Моладзі да 30 гадоў спісы ўключылі ўсяго 15 чалавек. Відаць, улады баяцца гродзенскай моладзі, якая не давярае прэзідэнту.

Абласныя ўлады разглядаюць сход як адзін з этапаў падрыхтоўкі да рэферэндуму. Таму старшыня аблвыканкама А.Дубко хоча даць указанні ўсім дэлегатам асабіста. На гэтым тыдні ён мае правесці рэгіянальныя інструктажы ў Гродне і Лідзе, а калі атрымаецца, то яшчэ і ў Ашмянах і Слоніме. У аблвыканкаме адкрыта тлумачаць, што *«прэзідэнт будзе праводзіць сход сваіх прыхільнікаў»*, а не беларускага народа ўвогуле.

Намеснік начальніка аддзела арганізацыйна-кадравай работы аблвыканкама М.Прысада сцвярджае, што людзі з задавальненнем выбіралі дэлегатаў на сход, бо «ссокучыліся» па гэтай справе. У большасці выпадкаў сходы прайшлі па загадзя зацверджаным сцэнарыі, і былі абраны людзі, якія задавальняюць вертыкаль. Сярод дэлегатаў «усебеларускага» мерапрыемства з нашай вобласці аказалося ўсяго 2% прадстаўнікоў палітычных партый, у шэрагі якіх нейкім дзівам трапілі тры сябры БНФ. Сход у сталіцы будзе фактычна аднапартыйным, бо абсалютная большасць ягоных дэлегатаў падтрымлівае — або па пераканані, або з-за страху — «партыю прэзідэнта».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Крэсла для Аляксандра Першага

**Здавалася б, нічога агульнага паміж беларускім прэзідэнтам і Папам Рымскім быць не можа. Аказваецца, гэта не зусім так.**

Адміністрацыя беларускага прэзідэнта закупіла нядаўна ў мінскай фірмы «Абсалют» два крэслы італьянскай вытворчасці коштам па 750 долараў кожнае. Прадстаўнікі фірмы пацвердзілі гэты факт, але адмовіліся паведаміць падрабязнасці здзелкі. Аднак нам удалося высветліць цікавы нюанс: менавіта ў такім самым крэсле (толькі чырвонага колеру) сядзіць сам Папа Ян Павел II. А чым горш наш Аляксандр I?

Дарэчы, вы не цікавіліся, колькі каштуе крэсла ў вашым рабочым кабінеце? Пацікаўцеся.

**Валодзя ЯНЧУК**

# Сход пройдзе без «зенітчыкаў»

**На Магілёўскім заводзе «Зеніт», дзе працуе 1.500 тысяч чалавек, не вылучылі дэлегатаў на прэзідэнцкі «ўсебеларускі сход».**

На прадпрыемстве ёсць моцная арганізацыя Свабоднага прафсаюза — каля 400 чалавек. Невыпадкова мясцовая вертыкаль лічыць гэты завод «неблагонадежным».

**Іван ЗАСАДА**

# Рэпрэсіі супраць радыё НБК

***У Гродне перастала выходзіць у эфір гарадская незалежная радыёпраграма НБК***

Яе рэдакцыя знаходзілася ў цэху праваднога вяшчання на вул.Леніна, дзе арэндавала радыёсетку. Але начальнік абласнога радыётэлевізійнага вузла П.Івашэвіч раптам вырашыў, што НБК *«самавольна заняла памяшканне»* і, як атрымліваецца, цэлых тры гады беспакарана яго займала. Такая падстава была прыдумана, каб незалежнай радыёпраграме не даваць эфіру, што раўназначна спыненню яе існавання.

Кіраўнік НБК Н.Палуцкая гаворыць, што сапраўдная прычына ў тым, што ў эфір падавалася інфармацыя, нявыгадная для ўлады. Галаслоўна НБК абвінавачваюць у тым, нібыта яно ў сваіх перадачах *«зневажае прэзідэнта»*. Але паколькі ўлады гэтага даказаць не могуць, за справу ўзялася прэзідэнцкая служба кантролю. Кантралёры раскапалі, што радыётэлевізійны вузел сам арэндуе памяшканне, а таму не мае права на субарэнду. Аднак прычым тут радыё НБК, якое ўвесь час спраўна плаціла грошы, як было дамоўлена і нічога не парушала? Замест таго, каб прапанаваць НБК прымальныя ўмовы для існавання, улады імкнуцца напросту прыкрыць незалежную радыёпраграму.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Я не належу да якой-небудзь палітычнай партыі і ўвогуле я не займаюся палітыкай, і я нават не цікавілася б ёю і займалася б сваёй працай, каб не дзеянні некаторых нашых «дзеячоў». Для іх лепшага ўспрымання далей я пішу па-руску.

...Месяц молчит Радио 101.2. Собираясь утром на работу, я всегда слушала эту волну, потому что это **мое** радио и оно поднимает настроение. Как-то раз «всенародноизбранный» товарищ заявил, что «каждый должен работать». Как я могу работать, если с утра у меня испорчено настроение чьей-то выходкой? И что после этого я **должна**? Кому? Тому, кто заявляет, что ни единому радио *«не будет позволено вести антигосударственную политику»*? В чем же заключается антигосударственная политика? В белорусском языке, в новостях *ВВС*, в передаче «Апошні паверх»? Нехорошо ябедничать, но если на волне радио «Би-Эй» не услышишь ни единой белорусскоязычной песни минской группы — то оно проводит государственную политику?!!

Если Радио 101.2 настроено против государства, то есть, против народа, то почему же не спросить этот самый народ, почему же не провести всеминский референдум?.. Кое-кто у нас очень любит прикрываться мнением народа — тогда почему игнорируется мнение **сотен** минчан, которые поставили свои подписи в поддержку Радио 101.2? Они что — не народ?

**Наталия СЧАСТНАЯ,**
*выпускница агрономического факультета Белорусской сельскохозяйственной академии*

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Царква не збіраецца маршыраваць

**З 1 па 3 кастрычніка ў Мінску праходзіла другая міжканфесійная канферэнцыя, у якой прымалі ўдзел хрысціянскія цэрквы і рэлігійныя аб'яднанні краінаў СНД і Балтыі, а таксама міжнародныя хрысціянскія арганізацыі.**

За «круглы стол» сабраліся разам адвентысты сёмага дня, баптысты, каталікі, лютэране, праваслаўныя, п'ядзесятнікі, стараабрадцы, уніяты.

Свае прывітанні ўдзельнікам канферэнцыі даслалі Папа Рымскі і Маскоўскі Патрыярх, а зварот беларускага прэзідэнта агучыў палкоўнік Сяргей Посахаў. Усцешаныя такою ўвагаю біскупы і пастары накіравалі пасланне прэзідэнту Лукашэнку (хоць многія былі супраць такога звароту, які можа быць скарыстаны ў палітычных мэтах). Журналістам хацелася тлумачэнняў, і мітрапаліт Філарэт падкрэсліў: *«Мы не хацелі, каб нашая канферэнцыя разглядалася як нейкі палітычны марш ці дэмарш»*. (Заўважым, што «марш» канферэнцыя ніяк не нагадвала; шаноўныя святары тры дні сядзелі ў зале культурна-асветніцкага цэнтра адміністрацыі прэзідэнта, дзе савецкая сімволіка на трыбуне надта ж кантраставала з прамовамі аратараў.) Адзін з прадстаўнікоў арганізацыйнага камітэту канферэнцыі сказаў, што *«дзякавалі не асабіста Лукашэнку, а пажадалі шчасця і дабрабыту ўсяму беларускаму народу. Гэта асноўны лейтматыў паслання»*. Калі рэлігійная канферэнцыя будзе праходзіць у Зімбабвэ, то аналагічнае пасланне накіруюць прэзідэнту гэтай краіны.

Нягледзячы на тое, што на канферэнцыю сабраліся розныя цэрквы, «кіруючай і напраўляючай» выглядала РПЦ. Мітрапаліт Кірыл падкрэсліў, што ўсе рэлігійныя аб'яднанні роўныя перад законам, але *«няма і не можа быць іх раўназначнасці ў народным жыцці»*. І калі, напрыклад, у Італіі або Польшчы галоўную ролю адыгрывае рыма-каталіцкі касцёл, то ў СНД лідэрам заканамерна з'яўляецца Руская праваслаўная царква, бо, маўляў, у традыцыйна хрысціянскіх краінах Садружнасці большасць вернікаў адносіцца да РПЦ. (Што не зусім так, бо, напрыклад, грузіны і армяне, якія прынялі хрысціянства раней за Русь, да Рускай праваслаўнай царквы ніякага дачынення не маюць.) Такія заявы, натуральна, выклікалі насцярожанасць у прадстаўнікоў іншых канфесій.

Прадстаўнік адвентыстаў сёмага дня з Украіны сказаў, што дзяржава мае права толькі кантраляваць камерцыйныя структуры, якія ўзнікаюць каля царквы. Для нас, дарэчы, гэта вельмі актуальна: нашая дзяржава якраз гуляе з царквой у палітычныя гульні, а на каляцаркоўную камерцыйную дзейнасць увагі як бы і не звяртае.

Удзельнікі канферэнцыі пагадзіліся не паглыбляцца ў міжцаркоўныя спрэчкі і перайсці да «зямных» справаў. Абсалютна нецаркоўная праблема пашырэння *NATO* на ўсход зацягнула работу форума амаль на гадзіну. Старшыня арганізацыйнага камітэта, прадстаўнік Маскоўскага патрыярхату айцец Віктар патлумачыў журналістам, што *«царква жыве на зямлі, таму мы не можам раўнадушна глядзець на фарміраванне і ўмацаванне NATO»*. На ягоных словах, *«частка ўдзельнікаў канферэнцыі вырашыла, што пашырэнне NATO як палітычны фактар падзяляе народы»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Президент пытается заручиться поддержкой «шурави»

**Как стало известно из информированных источников, 28 сентября в столичном Доме офицеров состоялось собрание минской областной организации воинов-интернационалистов. Спустя три дня аналогичное мероприятие прошло в Могилеве. Планируется, что в ближайшее время такие форумы пройдут в остальных регионах Беларуси.**

Активизация общественной работы наших «афганцев» вовсе не связана с эскалацией обстановки за Аму-Дарьей и победным шествием талибов в северные провинции страны. Это объясняется более прозаическими причинами. Накануне референдума в идеологическом штабе президента Лукашенко решили заручиться поддержкой этой влиятельной и многочисленной организации.

Однако реализация данной идеи осуществляется в худших традициях советских времен. По всей видимости, главный «афганец» Беларуси Виктор Шейман и его основной политбоец в лице Владимира Заметалина надеялись услышать от ветеранов локальных войн традиционное «одобрямс». Для этого областным организациям было выделено шесть подержанных автомобилей «Волга» и обещано представление в зданиях райисполкомов помещений для работы. Основное руководство Союза «афганцев» было заверено в поддержке всех их начинаний со стороны властей.

Кстати, реверансы власть имущих к воинам-интернационалистам повторяются с поразительной периодичностью. О них вспоминают лишь во времена обострения борьбы за власть. Свидетельством тому первые в Беларуси президентские выборы. И Вячеслав Кебич, и Александр Лукашенко, прекрасно осознавая авторитет и влияние «афганцев», в первую очередь, на молодежь, делали все, чтобы заручиться их поддержкой. Из уст кандидатов, как из рога изобилия сыпались обещания. Но прошли выборы и «афганцы», равно как и ветераны Великой Отечественной войны, остались один на один со своими проблемами.

Одного не учитывают президентские идеологи. Десятилетняя война в Афганистане, как не странно это звучит, сыграла свою позитивную роль. Тысячи белорусских парней, прошедших горнила малопонятной войны, воочию убедились в двуличности политиков: вначале, прикрываясь интересами защиты южных рубежей Союза, посылать на бойню, а затем свалить всю вину за произошедшее на человека в погонах.

Об этом свидетельствуют наскоро проведенные собрания в Минске и Могилеве. Собравшиеся были удивлены, когда наряду с рассмотрением вопросов о социальной защите ветеранов и семей погибших им пытались навязать идею поддержания политики президента и предстоящего плебесцита. Кстати сказать, положениями устава Союза не предусмотрено участие в политической деятельности, тем более, на стороне отдельно навязанного им политика. Поэтому ожидаемых результатов данные форумы не принесли. Наверное только сбор в Могилеве президентские сторонники могут отнести себе в актив. И то, не столько собрание, сколько «пламенную» речь председателя областного Совета Дулебенца, который от лица всех (всех ли?) воинов-интернационалистов в интервью АТН заверил «всенароднoизбранного» в поддержке.

А что касается истинной заботы государства, то цену ей знают лишь родители тех, кто остался в горах Гиндукуша или потерял там свое здоровье. Матери могут поведать много нелицеприятного в адрес официальных властей. Нищенские пособия, так и не выплаченные своевременно пятимиллионные пособия за навеки ушедших сыновей, катастрофическая нехватка импортных протезов и абсолютное безразличие «вертикали» к их нуждам. Зато в кабинетах чиновников можно услышать: «Я вашего сына туда не посылал».

Необходимо констатировать, что несмотря на все ранее предпринимаемые попытки политиков внести раскол в афганское движение путем «перетягивания» их на свою сторону, они смогли сохранить свое единство. Дешевые призывы, при отвратительной режиссуре президентских идеологов, к счастью, действуют лишь на немногих. Ибо, «шурави» прекрасно осознают, что в противном случае они могут оказаться в роли интимного аксессуара, который, за ненадобностью отбросят в сторону.

Кстати, следует отметить разум и дальновидность политических оппонентов президента, которые не стали бороться за голоса ветеранов сомнительными методами. Хотя, наличие в их рядах столь известных имен, как Юрий Захаренко, Петр Чаус, Валерий Кез и др., прошедших Афганистан, могли полностью свести на нет потуги Заметалина и компании. По всей видимости в этом не было необходимости. Ибо ветеран, обманутый в декабре 1979 года, спустя семнадцать лет способен отличить искренность от закамуфлированной лжи.

**Сергей АНИСЬКО**

СВАБОДА
8 кастрычніка 1996 г., № 76

# «Динамовцы» успокоились

**Протесты минских «челноков» дали результат — власти пошли на уступки.**

На прошлой неделе Минский горисполком принял окончательное решение по поводу размера твердых ставок налога на прибыль с предпринимателей и фиксированных сумм подоходного налога. Милиция, правда, тоже времени не теряла.

«Челноки» выбили для себя более-менее приличные условия работы. Сумма фиксированного налога, к примеру, теперь составит в среднем 400—500 тысяч рублей в месяц с одного торгового места на рынке. А некоторые категории граждан (инвалиды, пенсионеры и др.) получили налоговые льготы. Из решения Мингорисполкома удален и пункт о введении повышающего коэффициента к базовой ставке налога в зависимости от категории улицы, на которой расположена торговая точка. В целом окончательный вариант документа удовлетворил предпринимателей.

Кроме того есть вероятность, что их просьба, изложенная в письмах премьеру М.Чигирю и Верховному Совету по поводу отмены системы отрывных талонов как неэффективной и порождающей коррупцию в налоговых органах, будет удовлетворена.

Вроде бы все в порядке, но власти и на этот раз не смогли вести честную игру. Пойдя на уступки предпринимателям, власти в тоже время дали указание правоохранительным органам разобраться с наиболее активными представителями малого бизнеса. Их начали запугивать.

Буквально на следующий день после проведения профсоюзного собрания, которое состоялось 26 сентября, на представителей инициативной группы работниками Ленинского РОВД был составлен протокол, обвиняющий предпринимателей в резком выступлении на профсоюзном собрании г-на Антончика. Правда, после просьбы «челноков» показать закон, предусматривающий ответственность одного гражданина за действия другого совершеннолетнего гражданина, их временно оставили в покое.

Однако 2 октября гонения возобновились: на председателя объединенного комитета профсоюза предпринимателей Е.Наумович и председателя комитета предпринимателей ярмарки центра «Динамо-спорт» И.Дениса представителями Ленинского РОВД опять был составлен протокол, но уже обвиняющий их в организации несанкционированного митинга 26 сентября. То ли милицию дезинформировали, то ли они потеряли всякую ориентацию и не видят разницу между митингом и внутренним собранием трудового коллектива. Естественно, профсоюзные активисты не стали подписывать протокол, предъявив РОВД аккуратно оформленный протокол профсоюзного собрания.

Непонятно чем и как скоро закончится охота на предпринимателей со стороны правоохранительных и налоговых органов. Ясно одно: с белорусскими властями невозможно работать честно. С одной стороны вам показывают пряник, с другой — получаете кнутом. Кстати, «челноков» так просто уже не проведешь — они отдают себе отчет в том, что все уступки в их пользу, скорее всего, не продлятся дольше, чем до референдума.

**Вероника СТРОЕВА**



# Чем плоха ДИКтатура?

*Слова «диктатура» и «дикость», конечно, не являются однокоренными с чисто лингвистической точки зрения. Но их созвучность подчеркнута в заглавии не случайно*

Официальные СМИ, действуя по принципу «не умением, а числом», очень много места и времени уделяют попыткам опровергнуть тот очевидный факт, что лукашенковский проект конституции дает президенту Беларуси диктаторские полномочия. Несмотря на это, неизбежность диктатуры в случае победы А.Лукашенко на референдуме очевидна. Однако, чего греха таить, у некоторых граждан возникает вопрос: *«Ну и что? Ну, пусть диктатура — чем плохо? Так ли страшен черт, как его малюют?»*.

Малюют президентский проект, впрочем, весьма розовыми красками. Только как черта ни малюй — он все равно остается чертом.

Даже от людей с высшим образованием подчас приходится слышать, что вот был диктаторский режим Пиночета в Чили, был, мол, авторитарный режим Валенсы в Польше — и это помогло названным странам выйти из кризиса.

Начнем с того, что не стоит брать за образец пиночетовское Чили. Во-первых, как бы там ни обстояло дело с ростом показателей жизненного уровня, между тем концлагеря, пытки, репрессии против инакомыслящих, стадион в Сантьяго — это что, выдумки советской пропаганды? Так нравственно ли, допустимо ли платить такую цену за экономические успехи? Во-вторых, даже если смотреть жестко прагматически, к нашей стране чилийский опыт неприложим. Ведь А.Пиночет вернул Чили на прежние рельсы, т.е. на путь свободной рыночной экономики, которую президент С.Альенде даже не успел до конца разрушить. Для Беларуси возврат на прежние рельсы означает прямо противоположное — реанимацию командно-административной системы. У нас может быть только «красный Пиночет». Белорусский диктатор никаких чикагских экономистов приглашать не будет — наоборот, он попытается сделать Беларусь социалистическим островом типа Кубы или Северной Кореи. Минусы диктаторского режима, повторимся, не уравновешиваются плюсами (что толку в жизненном уровне, ежели ты сидишь в концлагере?). Но даже эти относительные плюсы, которые имелись у пиночетовского режима, нам абсолютно не светят — а вот минусы мы рискуем обрести сполна.

Что же касается Польши, то там в последние годы не было никакого авторитарного режима. Сам Л.Валенса — действительно авторитарная личность, но не более того. Между системой государственного управления и психологическим складом президента — огромная разница! Л.Валенса авторитарно руководил своей командой, но не государством в целом — на последнее у него не было полномочий, т.к. Польша даже не является в чистом виде президентской республикой (там, как и во Франции, смешанная парламентско-президентская система). А от государственной системы, от того, насколько сильны в стране демократические институты, зависит очень многое.

В Беларуси нет надежных и отлаженных механизмов защиты человека от произвола властей, а государства — от авантюр первого лица. По лукашенковскому же проекту президент получает практически неограниченные полномочия, а никакой «защиты от дурака» не предусматривается. И это губительно для страны в любом случае, независимо от отношения к тому, кто ее возглавляет в данный момент.

В начале XIX в. мадам де Сталь, восхищенная российским императором Александром Первым, сказала ему: *«При таком царе не нужно Конституции!»*. *«Если это и так, то я – лишь счастливое исключение!»* — ответил Александр Павлович. Александра Григорьевича я,таким счастливым исключением не считаю. Однако если кто-то и считает, то исключение все равно остается исключением: на смену доморощенному первому Александру придет другой человек, а Конституция останется прежней. Так можно ли давать диктаторские полномочия президенту в принципе?

У М.Жванецкого в одной из миниатюр, написанных еще в советские времена, высмеивался большой начальник, который решал все вопросы самолично, при этом *«он виноват не в том, что не может в пять минут решить проблему, на которую вы затратили годы, — он виноват в том, что вообще берется решать»*. Точно так же, как этот недалекий начальник, поступает и А.Лукашенко, вмешиваясь буквально во всё (недавно, например, он заявил, что в результате его начальственных «накачек» министр жилищного строительства *«дома научился строить»*).

В цивилизованных странах давно поняли, что ничего хорошего из таких методов руководства не получается, и пошли на децентрализацию как в экономике, так и в политике. Поэтому местные проблемы там решает местное самоуправление, совершенно не зависимое от центральной власти и полностью зависящее от своих избирателей. Чтобы на жизнь страны не могла оказать решающего влияния любая прихоть государственного чиновника (включая президента), действует принцип разделения властей. Один из отцов-основателей США Дж.Мэдисон писал: *«Концентрацию всей власти — законодательной, исполнительной и юридической — в одних руках можно с полным правом считать определением тирании»*. А ведь именно такая концентрация и предусматривается в лукашенковском проекте конституции!

Самодурство и злоупотребления со стороны президента Беларуси и его администрации уже сегодня пресечь не так-то просто. Принятие же лукашенковского проекта приведет к полной бесконтрольности.

К сожалению, в Беларуси еще сильны упования на то, что «батюшка» наконец начнет жаловать своих подданных. Расчет исключительно на личные качества вообще малоперспективен. Здесь действуют те же законы, что и в экономике. На Западе качественные товары производятся потому, что там опираются не на абстрактную добросовестность и трудолюбие, а на конкретное желание перещеголять конкурентов и получить прибыль — иными словами, на «шкурный интерес». Там продавщица, несмотря на собственные проблемы и плохое настроение, улыбается клиентам и быстро их обслуживает не из любви к ним, а поскольку от этого напрямую зависит ее заработок. Таким же образом и политики в условиях демократии в конкурентной борьбе должны доказывать, что они лучше других, и не допускать неблаговидных поступков. В условиях же диктатуры и бесконтрольности в этом нет нужды — твори что хочешь.

Американский президент Р.Никсон не избивал конгрессменов, не издавал антиконституционных указов, не монополизировал СМИ и т.п. — процедура импичмента, в результате которой он и ушел в отставку, была инициирована из-за такой малости, как прослушивание телефонов в штаб-квартире Демократической партии. У нас бы на такой «уотергейт» никто бы и внимания не обратил. Отечественные чиновники теперь зачастую даже не реагируют на сообщения в прессе о вопиющих злоупотреблениях и коррупции — хоть ты им в глаза плюй, они утираются, и как ни в чем ни бывало продолжают сидеть на своих местах.

Президентские апологеты утверждают, что никакой диктатуры не может быть, коль скоро президент не вводит свою конституцию самочинно, а «советуется с народом». Однако, условия, в которых проводится референдум, никак нельзя назвать демократичными: давления местного начальства, монополии на информацию, безудержной траты государственных средств на рекламную кампанию в поддержку референдума и прочих «прелестей» такого рода демократия отнюдь не предусматривает. И, главное, при любых условиях демократический путь принятия решений вовсе не говорит о том, что само решение автоматически будет демократичным. Гитлер в свое время провел 5 референдумов и все их выиграл, да и к власти пришел через выборы — однако мы не скажем, что фашистская Германия была демократической страной. Так что демократическим путем вполне можно прийти к диктатуре.

Кроме того, демократия — это не только принятие решений большинством голосов, но и неотъемлемые права меньшинства. В какой-то момент в меньшинстве может оказаться каждый. У нас о правах меньшинства вообще речи нет. Это касается не только политики, но если все же о ней, родимой, то ситуация весьма очень показательна: достаточно посмотреть, как исполнительная власть относится к независимым СМИ, к оппозиции, да и к Верховному Совету и Конституционному суду — и все станет ясно: на деле прав никаких.

Диктатура порочна даже в мягкой форме. А если вспомнить, что образцом отношений с согражданами для нашего президента является внутренняя политика Гитлера, то есть все основания полагать, что мягкости не будет.

Диктатура бесперспективна с экономической точки зрения. Достаточно сравнить жизненный уровень афро-азиатских государств с Западной Европой, основной природный ресурс которой — это развитая демократия. Достаточно вспомнить хусейновский Ирак — страну, которая является нефтяным гигантом, но жители которой нищенствуют из-за того, что диктатор делает, что ему хочется. Что уж говорить о лукашенковской Беларуси, которая не очень-то наделена ископаемыми! У нас в избытке разве что ископаемые идеологические догмы.

Зато уже сейчас А.Лукашенко, чьи полномочия еще не являются диктаторскими в полной мере, может взять и сделать широкий жест — например, отказавшись от 10 миллиардов долларов(!), которые, по его собственным словам, ему предлагали за демонтаж Ганцевичской радиолокационной станции. А это — ни много ни мало 1.000 долларов на каждого гражданина Беларуси.

Но что это мы все об экономике. В конце концов, не хлебом единым жив человек. Может быть, отсутствие хлеба насущного будет хоть отчасти компенсировано пищей духовной? В Национальной библиотеке на самом видном месте установлен стенд с надписью «Информация». На нем имеется один-единственный материал. Это плакат с изображением лукашенковского герба. Момент очень символичный: вот только такую информацию мы и будем иметь в случае диктатуры Лукашенко.

Перечитал я этот текст и подумал: что-то много мы говорим о цивилизованных странах. А какое отношение цивилизованные страны имеют к Беларуси? Ведь А.Лукашенко заявил однозначно: *«Я свое государство за цивилизованным миром не поведу!»*. То бишь будем оставаться дикими. Так оно и будет, если на референдуме мы собственными руками проголосуем за дикость. В смысле за ДИКтатуру.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

# Нашая прыгажуня

## *Мінчанка Алена Шчарбак — сярод пераможцаў конкурсу Міс Еўропа-96*

Беларуская прыгажуня заваявала ганаровы тытул Першай віцэ-міс Еўропы. Крыху больш сімпатый (а значыць — і балаў) міжнароднае журы аддало 23-гадовай Мэры-Клер Харысан з Англіі. Але ў нашай Алены Шчарбак яшчэ ўсё наперадзе. Ёй зусім нядаўна споўнілася 17 год, яна студэнтка II курса Мінскага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. На няпросты шлях мадэлькі, манекеншчыцы Алена ступіла ўсяго год таму, а вось ужо за плячыма перамога на конкурсе «Нацыянальная мадэль Беларусі'96» і — званне Першай віцэ-міс Еўропы.

Кожны год, пачынаючы з 1948 года, праводзіцца конкурс «Міс Еўропа». Такія турніры адбываюцца ў рамках Еўрапейскага фестывалю элегантнасці і прыгажосці, і сёлета погляды сапраўдных аматараў і, так бы мовіць, экспертаў жаночай красы сканцэнтраваліся ў Тыране — сталіцы невялікай і не асабліва вядомай Албаніі, куды з'ехаліся прыгажуні ажно з 35 краін Еўропы. Кіраўнікі тых дзяржаваў, дзе праходзяць конкурсы, натуральна імкнуцца выкарыстаць такую ўдзячную магчымасць для папулярызацыі свайго краю, прыцягнення міжнароднай увагі. Таму прэзідэнт Албаніі наладзіў спецыяльны прыём для самых прыгожых дзяўчат і асабіста віншаваў нашую Алену Шчарбак з перамогай.

А вось беларускія ўлады чамусьці праігнаравалі падзею. Праўда, на прэс-канферэнцыі 3 кастрычніка Алену нібыта павінен быў віншаваць адзін з чыноўнікаў кіраўніцтва справамі прэзідэнта Л.Харужых, але, як высветлілася, ён тэрмінова з'ехаў у правінцыю — відаць агітаваць за рэферэндум. Ад адміністрацыі прэзідэнта і ўрада букет кветак Алене ўручыла... Ніка, якая некалі перамагла ў конкурсе «Фотамадэль СССР» і, пэўна, за гэта атрымала права гаварыць ад імя кіраўніка беларускай дзяржавы.

*На конкурсе ў Албаніі Алена Шчарбак (злева) і Міс Еўропы англічанка Мэры-Клер Харысан паспелі пасябраваць.*

Да конкурсаў прыгажосці Алену Шчарбак рыхтавала мінскае агенцтва «Тамара». Яго дырэктар Т.Ганчарова ўпэўненая, што Алена перамагла «дзякуючы сваёй дзявочай наіўнасці і арыгінальнаму касцюму ў нацыянальным стылі, упрыгожанаму плеценай саломкай».

Карэспандэнт СВАБОДЫ задаў Алене Шчарбак некалькі пытанняў і даведаўся, што Першая віцэ-міс Еўропы да паступлення ў педуніверсітэт вучылася ў Мінскай СШ № 83. Яе любімая пара года — лета. У адзенні яна аддае перавагу вытанчанаму класічнаму стылю, а сярод моцных напояў — чырвонаму віну. Алена шчыра прызналася, што для яе няма нічога смачнейшага за беларускую бульбу. МАЗы не асабліва стасуюцца з дзявочай прыгажосцю, а сваіх легкавікоў у Беларусі няма — таму Алена марыць сядзець за рулём *BMW*. Зрэшты, гэта не так ужо і важна, галоўнае для нашай прыгажуні — атрымаць добрую прафесію і — быць шчаслівай. А яшчэ яна любіць танцаваць, асабліва вальс — у танцах яна таксама цэніць класічную вытанчанасць.

Першае каханне прыйшло да Алены Шчарбак у 16 гадоў. Але ідэал мужчыны для яе — пакуль што родны бацька. Сама ж Алена, па яе словах, больш падобная да маці, якую называла вельмі прыгожай і элегантнай жанчынай.

**Анатоль МІРСКІ**

СПОРТ

# Звяржэнне Шаміля

### ФУТБОЛ: БАРОЎСКІ СЫХОДЗІЦЬ?

Гэтае пытанне было пастаўленае на парадак дня пасля таго, як у суботу ў Таліне нацыянальная зборная Беларусі ў адборачным матчы чэмпіяната свету прайграла зборнай Эстоніі — 0:1. Карэспандэнт ТАСС назваў гэты вынік сенсацыйным, таму што эстонцы — вядомы аўтсайдэр IV адборачнай групы. Нам застаецца толькі пагадзіцца з такім вызначэннем. Прыходзіцца прызнаць, што ўзровень беларускага футбола імкліва падае. Пакуль за нацыянальную каманду яшчэ выступалі такія неардынарныя футбалісты як Андрэй Зыгмантовіч і Аляксандр Мятліцкі, гульня зборнай выглядала больш-менш ахайнай і стройнай. Пасля іх сыходу гэтыя якасці былі згубленыя. Маладыя ды таленавітыя Валянцін Бялькевіч, Аляксандр Кульчый, Уладзімір Макоўскі па розных прычынах яшчэ не сталі салістамі ансамбля. У тым, што няма ні ансамбля, ні салістаў у большай ступені вінаваты галоўны трэнер зборнай Сяргей Бароўскі, кіраўнік каманды на працягу больш двух гадоў.

У той жа дзень у Рызе сустрэліся нашыя сапернікі па групе латышы і шатландцы. Госці перамаглі — 2:0. Цяпер сітуацыя такая:

| | Г | А | | Г | А |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Швецыя | 2 | 6 | 4. Беларусь | 3 | 3 |
| 2. Шатландыя | 2 | 4 | 5. Аўстрыя | 1 | 1 |
| 3. Эстонія | 2 | 3 | 6. Латвія | 2 | 0 |

У наступным туры 9 кастрычніка гуляюць Беларусь — Латвія, Эстонія — Шатландыя, Швецыя — Аўстрыя.

Вельмі ўдала стартавалі ў групавым турніры ўкраінцы, якія перамаглі дома Партугалію — 2:1. Гэта іхняя другая перамога. У першым матчы Украіна выйграла ў гасцях у Паўночнай Ірландыі — 1:0. Цяпер у Белфасце дамагліся нічыі супраць паўночнаірландцаў зборная Арменіі — 1:1. Малдаване саступілі ў Кішынёве італьянцам — 1:3. Літва дома абыграла Ісландыю — 2:0.

У адборачным турніры маладзёжнага чэмпіяната Еўропы беларусы згулялі ўнічыю з эстонцамі — 1:1. Нашы лідзіруюць — 7 ачкоў пасля 3 гульняў.

### ВАЛЕЙБОЛ: ТВАРАМ ДА ЕЎРОПЫ

Беларускія валейбалісткі атрымалі трэцюю запар перамогу ў групавым турніры чэмпіяната Еўропы. У Рыоме (Францыя) яны нанеслі паражэнне гаспадыням пляцоўкі — 3:0 (15:12, 15:9, 15:13). Цікава, што ў першай партыі нашыя спачатку ўступалі французжанкам — 0:8, але праявілі волю і майстэрства. Цяпер беларускі лідзіруюць разам з камандай Румыніі. Але ў румынак наперадзе гульня з французскімі дзяўчатамі, а нашым — з югаслаўкамі, у якіх пакуль адны нулі.

### ТЭНІС: ЧОРНЫ ТЫДЗЕНЬ ФАВАРЫТАЎ

Знакамітая германская тэнісістка Штэфі Граф не змагла згуляць паўфінальны матч турніру ў Ляйпцыгу супраць суайчынніцы Анке Хубер. З-за траўмы нагі ёй прыйшлося адмовіцца працягваць гульню ледзь не на самым яе пачатку.

Ужо ў першым крузе схаваў ракетку на турніры ў Ліёне (Францыя) фаварыт спаборніцтваў Томас Мустэр (Аўстрыя). Траўма і прастуда перашкодзілі яму поўнасцю праявіць сябе ў матчы з Крысам Вудрафам (ЗША). А ў фінале Яўген Кафельнікаў (Расія) перамог француза Арно Беча — 7:5, 6:3.

Другая ракетка свету Майкл Чанг (ЗША) у фінальным паядынку турніру ў Сінгапуры быў вымушаны пакарыцца свайму суайчынніку Джонатану Старку — 4:6, 4:6.

### ХАКЕЙ: КАРАВАН ВЫПРАВІЎСЯ Ў ДАРОГУ

Стартаваў 80-ы юбілейны чэмпіянат мацнейшай хакейнай лігі свету — Нацыянальнай хакейнай (*NHL*). Ужо ў першым матчы ўладальнік Кубка Стэнлі-96 «Каларада Рокіз» дома прайграў «Сэнт-Луіс Блюз» — 2:4. «Эдмантан» пераадолеў супраціў «Бафала» — 4:3, а «Лос-Анджэлес» — «Нью-Ёрк Айлендэрс» — 2:0. «Бостан» і «Рэйнджэрс» згулялі ўнічыю — 4:4.

### ХРОНІКА: КРАХ ШАМІЛЯ ТАРПІШЧАВА

Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын падпісаў указ аб адстаўцы старшыні каардынацыйнага савета па фізічнай культуры і спорту, памочніка прэзідэнта па фізкультуры і спорту Шаміля Тарпішчава. Ёсць меркаванні, што ключавую ролю ў звяржэнні спартовага боса адыграў кіраўнік адміністрацыі Ельцына Анатоль Чубайс, які даўно выступаў супраць падатковых ільготаў на паўкрымінальныя зделкі Нацыянальнага фонду спорта. Як вядома, былы старшыня НФС Барыс Фёдараў арыштаваны ў чэрвені па падазрэнні ў распаўсюджванні наркотыкаў. Адстаўка Тарпішчава, стаўленнікам якога і быў Фёдараў, вызвана жаданнем Чубайса адмежавацца ад скампраметаванага крымінальнымі сувязямі шэфа расійскага спорту. Адначасова Тарпішчаў напісаў заяву ў Міжнародны алімпійскі камітэт з зваротам адзавесць яго паўнамоцтвы члена МАК. Чакаецца, што ён узначаліць Расійскую тэнісную асацыяцыю.

### З ЖЫЦЦЯ ЗОРАК: МАРАДОНА СМЯРОТНА ХВОРЫ?

Па звестках аргенцінскага часопіса «Ноцісіас», знакаміты футбаліст Дыега Марадона смяротна хворы: ён пакутуе нязрозам, хваробай, пры якой адміраюць клеткі і тканкі галаўнога мозгу. Лекары лічаць прычынай хваробы працяглае ўжыванне какаіна.

**Сямён ПЛОЦ**

# Ушанавалі памяць маці Максіма

**У Гродне адзначаныя 100-ыя ўгодкі з дня смерці Марыі Апанасаўны Багдановіч — маці класіка беларускай літаратуры Максіма Багадновіча.**

Падчас цырымоніі былі ўскладзеныя кветкі да яе магілы на старых праваслаўных могілках. У Брыгіцкім касцёле прайшло набажэнства, прысвечанае яе памяці, а потым адбылася вечарына ў абласным тэатры. Арганізаваў дзень памяці гродзенскі музей Максіма Багдановіча.

**С.А.**

# Уцякаюць...

**Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі і Дзяржаўная міграцыйная служба правялі даследаванне міграцыі беларускіх навукоўцаў.**

Высветлілася, што ў 1991—1995 гг. за мяжу на пастаяннае месца жыхарства выехала каля трохсот навуковых работнікаў і выкладчыкаў ВНУ. З іх 26 дактароў і 114 кандыдатаў навук. Вучоныя-эмігранты аддаюць перавагу ЗША (38%). 32% абралі месцам свайго пастаяннага жыхарства Ізраіль. Кожны дзесяты выехаў у Расію, 7% — у Германію, 3% — у Канаду. Колькасць тых, хто вырашыў пакінуць Беларусь, з 1991 г. паступова змяншалася, аднак у 1995 годзе ізноў зафіксаваны рост эміграцыі навуковых работнікаў.

*БелаПАН*

# Пажарнікі замкнулі Дом культуры

**Вось ужо амаль тыдзень Слонімскі раённы Дом культуры не працуе: дзверы апячатаныя, адключаная электрычнасць.**

Адзінага культурнага аб'екта слонімцаў пазбавіла Гродзенская абласная пажарная інспекцыя. Афіцыйная прычына — «адсутнасць у памяшканнях сучаснага супрацьпажарнага абсталявання». Цікава, што РДК дзейнічае ўжо 15 гадоў, а недахопы пажарнікі ўбачылі толькі цяпер. Для набыцця новага абсталявання работнікам культуры трэба знайсці ажно 200 млн. рублёў. У мясцовым бюджэце такіх грошай няма. Таму артысты Слонімскага народнага тэатра, удзельнікі 10 мастацкіх калектываў і гурткоў вымушаны рэпеціраваць на кватэрах.

**Валодзя ЯНЧУК**

# Новыя «ворагі» прэзідэнта

**Дзіўны «Інфармацыйны бюлетэнь камітэта дзяржаўнай бяспекі» з'явіўся ў Магілёве.**

У развешаных на сценах «бюлетэнях» паведамляецца, што «*магчымая акупацыя Беларусі Вялікім Герцагствам Ліхтэнштэйн, за спіной якога хаваецца Швейцарская Канфедэрацыя*», і гэты план пагражае асабістаму лёсу Аляксандра Лукашэнкі. Ва ўлётках падрабязна апісваецца, як супрацьстаяць захопнікам і заклікаецца праяўляць мужнасць перад пагрозай такіх заходніх дзяржаваў, як Ліхтэнштэйн, Манака, Андора і Люксембург, «*за спінамі якіх несумненна стаіць NATO*».

**Іван ЗАСАДА**



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet: http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 46.320
Нумар падпісаны ў друк 07.10.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 2619